**№169 (1732)**

Аўторак, 9 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, уначы — +7...+9; у Брэсце ўдзень — +19...+21, уначы — +10...+12; у Гродне ўдзень — +19...+11, уначы — +8...+10; у Віцебску ўдзень — +9...+11, уначы — +7...+9; у Гомелі ўдзень — +13...+15, уначы — +7...+9,; у Магілёве ўдзень — +8...+12, уначы — +7...+9.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца воблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Песімізм дырэктараў

59 працэнтаў кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі лічаць, што ў найбліжэйшыя два-тры месяцы эканамічнае становішча іх прадпрыемстваў не зменіцца. Пра гэта яны паведамілі навукоўцам Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі падчас праведзенага імі не так даўно экспертнага апытання.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## Бел-чырвона белыя сцягі ў гадавіну Аршанскай бітвы

Некалькі нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў былі вывешаныя напярэдадні 8 верасня ў Мінску. Такім чынам незарэгістраваныя "зубры" адзначылі чарговую гадавіну Аршанскай бітвы і нагадалі пра яе суграмадзянам. Сцягі былі вывешаныя над вуліцамі мікраараёнаў "Малінаўка" і "Курасоўшчына", а таксама ва "Уруччы" на ўездзе ў горад з маскоўскага накірунку. Усе сцягі былі вывешаныя на вышыні некалькі дзесяткаў метраў над жылымі дамамі і высакавольтнымі лініямі.

Дэмакратычная грамадскасць Беларусі адзначае 8 верасня як Дзень вайсковай славы. У гэты дзень у 1514 годзе войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім пад Оршай разбілі ўтрая большае войска Маскоўскай Дзяржавы. Гэтая бітва засталася ў гісторыі як адна з найбуйнейшых у Еўропе XVI стагоддзя. Пасля паразы царскіх ваяводаў на рэчцы Крапіўна амаль усе захопленыя імі гарады былі вызваленыя. Аршанская бітва з'яўляецца адной з самых значных перамог у барацьбе за Незалежнасць беларускай дзяржавы.

## Вяртаюцца бурыя мядзведзі

У лясы Брэсцкай вобласці вяртаюцца бурыя мядзведзі. Нядаўна іх бачылі жыхары чатырох раёнаў — Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Пружанскага і Маларыцкага. Жывёлін сустракалі на збожжавых палетках і ў забалочаных лясах.

Паводле звестак спецыялістаў Брэсцкага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, бурыя мядзведзі зніклі з мясцовых лясоў пасля Першай сусветнай вайны. Адзіночныя бадзяжныя асобіны сустракаліся ў 1938 і 1960 годах у Івацэвіцкім раёне. Апошняя рэліктавая група існавала на Палессі ў сумежных раёнах Брэсцкай і Мінскай абласцей.

Вяртанне бурага мядзведзя на Палессе спецыялісты абласнога камітэта прыродных рэсурсаў тлумачаць павелічэннем мядзведжай папуляцыі ў Бярэзінскім запаведніку і паляпшэннем кліматычных умоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Не адчыняй дзверы...

Паблізу вёскі Зачэрня Лёзненскага раёна позна ўвечары 19-гадовы жыхар Віцебска, знаходзячыся ў мікрааўтобусе "форд" у нецвярозым стане, падчас руху адчыніў дзверы, у выніку чаго сам і ехаўшыя ў салоне яшчэ дзве пасажыркі — дзяўчыны 1982 і 1983 гадоў нараджэння — выпалі і атрымалі цялесныя пашкоджанні. Адна з пацярпелых загінула, другая змешчана ў бальніцу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## *Скандалам пачаўся 8-ы з'езд Ліберальна-дэмакратычнай партыі, які прайшоў днямі ў Мінску*

# Гайдукевіча пракінулі...




Старшыня партыі Сяргей Гайдукевіч пакінуў залу пасяджэнняў і павёў з сабою частку дэлегатаў, пасля таго як шэраг кіраўнікоў цэнтральнага апарату і абласных арганізацый выказалі яму вотум недаверу. У прыватнасці, намеснік старшыні партыі Алег Маркевіч абвінаваціў Сяргея Гайдукевіча ў аўтарытарным стылі кіраўніцтва, аднаасобным прыняцці рашэнняў без уліку меркавання Вышэйшага савета партыі. *"ЛДП ператворана ва унітарнае прадпрыемства, якое абслугоўвае Гайдукевіча і яго сямейства"*, — сказаў Маркевіч. У віну С.Гайдукевічу ставіўся таксама правал выбарчых кампаній: парламенцкіх выбараў 2000 года, прэзідэнцкіх — 2001-га і мясцовых — 2003 года.

На думку прадстаўнікоў шэрагу рэгіянальных арганізацый ЛДП, Гайдукевіч ухіліўся ад партыйнага будаўніцтва і апошнія гады практычна не наведваў мясцовыя партыйныя структуры.

Сам Сяргей Гайдукевіч заявіў з трыбуны, што чакаў сёння такога развіцця падзей. *"Я ведаў, што будзе такая сітуацыя, але не стаў хавацца, а прыйшоў на з'езд"*, — сказаў ён. Паводле слоў Гайдукевіча, на пасадзе старшыні ЛДП ён рабіў усё магчымае, каб захаваць адзінства партыі і развіваць яе.

Пасля прагучаўшай крытыкі Гайдукевіч пакінуў залу пасяджэнняў, а астатнія дэлегаты з'езда прадоўжылі працу. Яны прынялі папраўкі ў статут, у прыватнасці, выключылі з яго пасаду старшыні ЛДП. Яго функцыі перададзены Вышэйшаму савету партыі, які таксама быў пераабраны сёння на з'ездзе. З пяці членаў Вышэйшага савета трое — Аляксандр Рабатай, Алег Маркевіч і Андрэй Курс — увайшлі ў склад новага савета. Гайдукевіч у яго не ўключаны.

Размаўляючы з журналістамі, ён заявіў, што лічыць сённяшні з'езд нелегітымным і паабяцаў праз тры тыдні правесці новы з'езд. Ён таксама паабяцаў выключыць з партыі "завадатараў гэтага партыйнага скандалу".

Цяпер разабрацца ў дадзенай сітуацыі зможа толькі Міністэрства юстыцыі, куды павінны быць перададзены выніковыя дакументы з'езда.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**P.S.:** *У рэдакцыю "Народнай волі" паступіў прэс-рэліз, падпісаны па даручэнні Вышэйшага Савета ЛДП Аляксандрам Рабатаем. Нельга не працытаваць наступныя радкі: "Не выдержав натиска критики партийцев, лидер ЛДП позорно покинул зал съезда с патетическим возгласом: "Соратники, за мной!" Под бурю негодования участников съезда за ним последовало несколько десятков человек, в том числе охрана и родственники".*

*Што ж, чым хутчэй пройдуць разборкі ў партыях, тым бліжэй будзе той дзень, калі іх канкрэтныя дзеянні прынясуць карысць Беларусі ў наш вельмі цяжкі і складаны час.*

# Дапамаглі і будзем дапамагаць

Як ужо паведамлялася, навучэнцы ліквідаванага ліцэя імя Я. Коласа свае сустрэчы з педпгогамі перанеслі з вуліцы ў знойдзеныя памяшканні.

Ліцэісты, бацькі і выкладчыкі шчыра ўдзячны грамадзянам Беларусі і беларусам замежжа, якія выказалі сваю падтрымку ў цяжкі час выпрабаванняў. І сапраўды, усім стала цяплей ад дабрыні і спагады.

Бацькоўская рада звяртаецца да шырокай грамадскасці з наступнай заявай:

"Шаноўнае спадарства! Мы разлічваем на вашу дапамогу і ў далейшым. Для тых, хто мае такую магчымасць, мы паведамляем: адмыслова для Ліцэя адкрыты наступны разліковы рахунак:

*НП ТАА "Тэхналогіка"*
*Р/р 3012000003937*
*Ф-л №4 ААТ "Белгаспрамбанк"*
*г.Мінск код. 107*
*УНН 190350702"*



*Ліцэісты за падручнікамі.*

**Фота Міколы КАЗЛОВІЧА.**

# Заявление

## Президиума Совета Белорусского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения

Президиум Совета профсоюза АСМ выражает категорический протест действиям руководства Министерства промышленности, направленным на разрушение отраслевых профсоюзов, действующих на предприятиях металлопромышленности. Заместитель министра Золоторевич и другие работники аппарата министерства выезжают на предприятия автосельхозмашиностроения, радиоэлектронной промышленности и других отраслей, путем давления на руководителей предприятий заставляют их требовать от профсоюзных комитетов проводить работу по переходу работников в профсоюз промышленности, контролируемый Минпромом и администрацией. В случаях отказа председателей профсоюзных комитетов от действий, противоречащих Уставам профсоюзов, администрация предприятий через производственный аппарат начинает сама заниматься "профсоюзным строительством", т.е. загонять работников в созданный профсоюз промышленности.

Подобные действия грубо нарушают Конвенции МОТ № 87 и № 98, ратифицированные в Беларуси, противоречат Всемирной Декларации прав человека и нормам Конституции Республики Беларусь.

Президиум Совета профсоюза АСМ требует от руководства Минпрома прекратить действия, не совместимые с принципами социального партнерства и подписанными соглашениями.

Президиум Совета профсоюза обращается к профсоюзам России и других стран СНГ, Международной организации профсоюзов автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, Международной Федерации металлистов, ко всем профсоюзам и профсоюзным организациям выразить солидарность белорусским профсоюзам в борьбе за право работника на свободный выбор профессионального союза.

**ТЕМА ДНЯ**

# Газовая атака Москвы

### *Россия предприняла очередной шаг, чтобы загнать Беларусь в свою рублевую зону.*

Как стало известно, глава концерна "Газпром" Алексей Миллер в письме белорусскому правительству заявил о прекращении переговоров по созданию совместного газотранспортного предприятия на базе "Белтрансгаза". Одновременно газовый концерн обратился к российскому правительству с просьбой о выходе с 1 января 2004 года из межправительственного соглашения, в соответствии с которым Беларусь покупает газ у "Газпрома" по цене 5-го ценового пояса РФ, а именно — по 28 долларов за тысячу кубометров вместо базовых 80 долларов.

Российский премьер-министр Михаил Касьянов открыто заявил, что в ближайшие дни оно скорее всего будет разорвано. В Белом доме считают, что переговоры с Минском по этому поводу абсолютно бесперспективны. В связи с этим газета "Время новостей" считает, что это равносильно объявлению "газовой войны". Такого же мнения придерживаются многие издания. Газета "КоммерсантЪ" публикует статью под заголовком "Александра Лукашенко травят газом", Би-Би-Си свой материал озаглавила "Газовая война".

Чем же вызвана "газовая атака"? Сам "Газпром" утверждает, что поводом послужили "принципиальные разногласия" по вопросу оценки стоимости активов предприятия и долей сторон. Напомним, что в Минске это предприятие оценили в 5 миллиардов долларов, а также отказались отдавать "Газпрому" контрольный пакет в СП. Однако российские комментаторы сходятся во мнении, что "Газпром" действует по указке Кремля. Так, газета "КоммерсантЪ" считает, что "начало "газовой войны" между странами не могло произойти без санкции Кремля. Очевидно, действия "Газпрома" следует рассматривать как ответ российского руководства на послание Александра Лукашенко Владимиру Путину, в котором говорится, что российский рубль не будет введен в качестве единственного платежного средства в республике с 1 января 2005 года".

Газета "Время новостей" пишет, что "Москва прибегла к услугам одного из самых эффективных дипломатических "вооружений", особенно в преддверии зимы, — "Газпрому". Тем более что у газовиков давно руки чешутся поставить нерадивых партнеров на место". "Независимая газета" отмечает: "Хотя формально отказ "Газпрома" от поставок газа по российским ценам никак не связан с явным нежеланием Минска вводить российский рубль, однако подоплека очевидна: Кремль устал от интеграционной демагогии и начал откровенно "выкручивать руки" Лукашенко. По мнению заместителя председателя комитета по делам СНГ Госдумы РФ Вячеслава Игрунова, это лишь форма давления на Беларусь, которая "ведет себя сейчас совершенно неадекватно".

Столь грозные заявления Москвы вовсе не свидетельствуют о ее немедленных грозных шагах. В комментарии проправительственного телеканала "Россия" заявлено, что время у белорусской стороны еще есть. Кремль лишь подтверждает, что от своих планов он не отступит. В этой связи представляет интерес "утечка" информации из Кремля. "Мы, конечно, не будем выдвигать лозунг "Белоруссия без Лукашенко", — говорит источник газеты "Время новостей" в Кремле. — Но и помогать ему, пытаясь идти на бессмысленные компромиссы, тоже не будем". Словом, или поможем тебе с третьим сроком, или завалим его".

Теперь яснее видно, куда ведут нас интеграционные игры Лукашенко. За них придется расплачиваться простым гражданам страны, ибо покупка газа по новым ценам обойдется дороже где-то на 100 миллионов долларов в год. А где их взять? Ясно, что у предприятий и населения. По прикидке некоторых аналитиков, это увеличит количество убыточных предприятий еще на 10 процентов. Выдержит ли новые поборы население? Ведь и так ожидается рост коммунальных платежей.

Так что Лукашенко скорее всего придется согласиться с Москвой. Слишком далеко, думается, зашел он с интеграционными играми.

Свое слово и Кремлю, и А.Лукашенко, думается, давно пора сказать белорусскому народу.

**Сергей ИВАНОВ.**

## Курсы замежных валют на 9 верасня

**На 9 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:**

*1 долар ЗША — 2095,00 рублёў*
*1 еўра — 2318,22*
*1 расійскі рубель — 68,24*
*1 аўстралійскі долар — 1357,66*
*1 балгарскі леў — 1190,68*
*1 дацкая крона — 312,18*
*1 СДР — 2863,30*
*1 ісландская крона — 26,09*
*10 японскіх іен — 178,99*
*1 казахскі тэнге — 14,17*
*1 канадскі долар — 1527,30*
*1 кувейцкі дынар — 6989,74*
*1 кыргызскі сом — 49,22*
*1 латвійскі лат — 3648,87*
*1 літоўскі літ — 671,37*
*1 малдаўскі лей — 152,70*
*1 нарвежская крона — 281,06*
*1 польскі злоты — 523,06*
*1 сінгапурскі долар — 1192,44*
*10000 турэцкіх лір — 15,12*
*1 украінская грыўна — 392,97*
*1 брытанскі фунт стэрлінгаў — 3323,19*
*1 чэшская крона — 70,59*
*1 шведская крона — 254,48*
*1 швейцарскі франк — 1507,68*
*1 эстонская крона — 148,20*

**БелаПАН.**

# Дакорлівы погляд Сімяона Полацкага

У мінулыя выхадныя наша краіна ў дзесяты раз адзначала Дзень Беларускага пісьменства. І вось ужо ў другі раз святкаванне праводзілі ў Полацку.

Асаблівасць гэтага свята — адкрыццё памятнага знака літары **"Ў"**, якая існуе толькі ў беларускай мове, і помніка славутаму палачаніну — Сімяону Полацкаму. Абодва помнікі ўсталявалі на цэнтральнай вуліцы, якая носіць імя барадатага Карла Маркса. Паўметровая літара "Ў" з'явілася каля гарвыканкама, а скульптурную выяву Сімяона Полацкага ўладкавалі перад адзіным у горадзе кінатэатрам, якраз насупраць помніка правадыру сусветнага пралетарыяту. Карціна даволі цікавая: настаўнік будучага расійскага імператара Пятра I накіраваў свой дакорлівы погляд на заснавальніка сацыялістычнай дзяржавы, а той, вінавата ад яго адвярнуўшыся, глядзіць на Захад...

Многія палачане, з якімі давялося размаўляць у гэтыя дні, адзначалі, што помнік Леніну на гэтым месцы ўжо зусім не дарэчы і яго трэба прыбраць. Тым болей што мастацкай каштоўнасці гэты манумент не ўяўляе, ды і ёсць каля чыгуначнага вакзала яшчэ адзін Ульянаў, які глядзіць у бок Расіі.

Шмат гавораць у Полацку і пра неадпаведнасць назваў вуліц у цэнтры старажытнай калыскі беларускай дзяржаўнасці і культуры. На самай справе, якое дачыненне да шматвяковай гісторыі беларускага горада маюць назвы вуліц Маркса, Леніна, Свярдлова, Камуністычная, Сака і Ванцэці і г.д.

У цэлым свята прайшло весела. Рэспубліканскія, абласныя і мясцовыя перыядычныя выданні бясплатныя раздавалі свае выпускі, заклікаючы гараджан у шэрагі падпісчыкаў. Выключэнне склала толькі афіцыйнае выданне мясцовай вертыкалі "Полоцкий вестник". Яго прадавалі, прычым па завоблачным кошце — па тысячы рублёў.

Своеасаблівы падарунак гараджанам да свята зрабіў полацкі гандаль: кошт булкі белага хлеба падскочыў на 13,6% (з 625 да 710 рублёў). Не засталіся ў баку і прыватныя перавозчыкі: праезд у мікрааўтобусе цяпер каштуе на 100 рублёў больш. Невядома пакуль: новыя цэны былі ўведзены толькі на час свята ці будуць правіць баль і далей.

**Валерый ШЧУКІН (па тэлефоне з Полацка).**

**P.S.** *12—14 верасня ў рэгіёне зноў чакаюцца святы. На гэты раз палачане паедуць у Наваполацк. Горад будзе адзначаць сваё 45-годдзе.*




**СЛЫШАЛИ?**

# Андрей Климов написал антиутопию

*"Я не хочу, чтобы страной стал править чей-то ставленник: ни российский, ни европейский, ни американский, ни австралийский... Будет хуже, в сто раз будет хуже! Нация должна переболеть авторитаризмом, прививка должна подействовать, иммунитет должен выработать наш собственный государственный организм. Нельзя лечить человека в момент действия прививки. Уже сейчас есть люди, молодые ребята, будущие политики, которые видят место своей страны в сообществе развитых мировых государств. Они знают, как строить свой мир, и хотят это делать!"*

Это фрагмент новой книги экс-депутата, экс-бизнесмена, экс-заключенного, а ныне философа Андрея Климова, который решил, видимо, надеть на себя венок знаменитого писателя Джорджа Оруэлла. Его книга так и называется: "Антиутопия Минск-2016". Презентация книги состоится 17 сентября в Минске.

**Наталья ГАК.**

ПУЛЬС

## Івонка СУРВІЛЛА: «Не цурайцеся мовы»

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла накіравала адкрыты ліст да настаўнікаў Беларусі з нагоды пачатку новага навучальнага года. У ім яна заклікае педагогаў "выхоўваць у беларускім духу нашых дзетак, каб яны не цураліся свайго, каб яны былі гордыя, смелыя, прынцыповыя. Каб разумелі, што Беларусь — іхняя Бацькаўшчына, і што іхнім святым абавязкам ёсць яе бараніць ад чужых імперыялістычных намераў".

Як адзначае старшыня Рады БНР, ад настаўнікаў "залежыць у вялікай ступені павага ў Беларусі да сваёй мовы, да ўсяго беларускага", бо яны з'яўляюцца найбольшым аўтарытэтам для сваіх вучняў.

"Вы, дарагія настаўнікі Беларусі, можаце як ніхто іншы адрадзіць беларускую Беларусь", — гаворыцца напрыканцы ліста.

**Андрэй СЕРАДА.**

## ...А цяпер чакай падарунка ад следчага

Пракуратура Барысава распачала крымінальную справу ў дачыненні да Святланы К., майстра спецкласа сярэдняй політэхнічнай школы № 19. Устаноўлена, што яна вымагала ў сваіх вучняў хабары ў выглядзе падарункаў. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе пракуратуры, гэта за апошні час другі падобны выпадак у Барысаве. Два месяцы таму ў мясцовым педагагічным каледжы супрацоўнікі АБЭЗ гарадскога аддзела ўнутраных спраў выкрылі адну з выкладчыц у падбухторванні вучняў да дачы хабару сваім калегам за паспяховую здачу экзаменаў.

Паднашэнні бяруць выкладчыкі і ў іншых гарадах сталічнай вобласці, сцвярджае супрацоўнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама Аляксандр Стрыгалёў. Так, пракуратура Капыльскага раёна і Слуцкая міжрайпракуратура распачалі крымінальныя справы ў дачыненні да дзвюх выкладчыц, якія бралі "падзякі ў пакетах" ад вучняў і бацькоў. Напрыклад, педагог аднаго з капыльскіх ліцэяў за станоўчыя адзнакі ў чвэрці брала бутэльку гарэлкі або віна і каробку цукерак. А яе калега са слуцкага медвучылішча за тую ж паслугу атрымлівала касметычныя наборы, фільтры для ачысткі вады і іншую бытавую тэхніку.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

## Штраф за кветкі

Міліцыя горада Смаргоні сумесна з работнікамі падатковай інспекцыі правяла чарговы рэйд па рынках горада, падчас якога сярод парушальнікаў выявілі некалькі пенсіянерак, што гандлявалі вырашчанымі на ўласных градках кветкамі без дакументаў на права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю. Складзеныя пратаколы аб парушэнні дэкрэта прэзідэнта Беларусі № 4 ад 27 студзеня 2003 года. Бабулькам пагражаюць штрафы і забарона займацца "бізнесам".

У размове з карэспандэнтам БелаПАН адна з вінаватых, 73-гадовая Лідзія Барэйка, паскардзілася, што ўмовы для гандлю на рынку кепскія, а за месца бяруць 1600 рублёў. "Бывае, і дарэмна прастаіш, а кветкі выкінеш", — гаворыць Лідзія Іванаўна. — Канешне, для кагосьці 2000—3000 рублёў прыработку ў дзень — сума нязначная. А для мяне гэта вялікія грошы, бо пенсія — усяго 103 тысячы рублёў, з якіх 25—30 тысяч ідуць на лекі, столькі ж — на камунальныя платы. Як я магу плаціць 39 тысяч у месяц за прадпрымальніцкае пасведчанне?"

Каменціруючы па просьбе БелаПАН гэтую калізію, начальнік аддзела Смаргонскай падатковай інспекцыі **Юрый Богма** заўважыў, што ягоныя калегі строга кіруюцца падатковым заканадаўствам, у якім дакладна сказана, што ад выплаты "адзінага падатку вызваляюцца індывідуальныя прадпрымальнікі і іншыя фізічныя асобы, якія рэалізуюць прадукцыю жывёлагадоўлі, пчалаводства і раслінаводства (за выключэннем кветак і насення)". Значыць, пенсіянеркі будуць плаціць або падаткі, або штрафы, падкрэсліў Ю.Богма.

Праўда, жанчыны не згодныя з гэтымі довадамі, яны накіравалі лісты ў Адміністрацыю прэзідэнта, у Палату прадстаўнікоў і абласны выканкам, у якіх сцвярджаюць, што закон — не догма, ён не павінен слепа "часаць" усіх пад адзін грэбень: паспяховых камерсантаў і малазабяспечаных пенсіянераў. А таму патрэбныя папраўкі ў падатковае заканадаўства.

**Дзмітрый РАГАВЕЦ.**

## Хабар для дэпутата

Пры атрыманні хабару затрыманы начальнік ААТ "Агравіта" Брэсцкага раёна, дэпутат Гершонскага сельскага савета Аляксандр Салапура.

Паводле звестак БелаПАН, кіраўнік затрыманы ў сваім рабочым кабінеце падчас атрымання 50 долараў ЗША ад жыхара Брэста ў якасці ўзнагароджання за выдачу гарантыйнага ліста аб прадастаўленні юрыдычнага адраса з наступнай арэндай офіса для рэгістрацыі і адкрыцця таварыства з абмежаванай адказнасцю.

Падчас вобыску ў затрыманага знойдзены 600 долараў ЗША і 300 еўра. Аляксандр Салапура змешчаны ў следчы ізалятар. Пракуратура Брэсцкага раёна па дадзеным факце ўзбудзіла крымінальную справу па частцы 1 артыкула 430 КК Беларусі ("атрыманне хабару").

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Дэманізацыя

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

Параўноўваючы беларускую апазіцыю з расійскай, Аляксандр Лукашэнка зрабіў выснову, што калі ў Расіі, маўляў, апазіцыя як апазіцыя — дык у нас зусім не тое. *"Гэта страшныя людзі,* — на абедзве краіны абвясціў Лукашэнка, — *ужо шашкі точаць: каго зарэзаць, каго павесіць, каго пасадзіць і г.д."*.

Поруч з гэтым Лукашэнка неаднаразова (значыць, невыпадкова) паўтарыў думку пра тое, што *"ў нас рускіх гналі з Беларусі"*: нібы за папярэдняй уладаю пад кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча рускія *"сядзелі на чамаданах"*, паколькі іх адсюль мэтанакіравана выштурхоўвалі — і толькі Лукашэнка асабіста спыніў гэты працэс, як узначаліў дзяржаву.

Следам за сваім "бацькам" на гэтыя матывы заспявалі афіцыёзныя медыя. Так, былы "праваабаронца", які цяпер аж пыл курыць рупіцца падслужваць уладзе, у сваёй нягеглай перадачцы насмактаў з пальца тузін жудасных жахаў: што ж гэта будзе, калі раптам апазіцыя скіне Лукашэнку і прыйдзе да ўлады. Ва ўсіх дзяржустановах учыняцца этнічныя чысткі, па вуліцах будуць шпацыраваць негры ў натаўскіх мундзірах, суверэнітэт Беларусі здадуць невядома каму, дый наогул насельніцтва перастраляе адно аднаго з аўтаматаў Калашнікава *("усе будуць ваяваць з усімі")*.

Крыху раней па БТ паказвалі фільм пад свежай ды арыгінальнай назваю "Суверэнітэт Беларусі. Імгненні часу", дзе ўвесь перыяд незалежнасці Беларусі да абрання Лукашэнкі на вышэйшую пасаду быў змешчаны пад рубрыку "Час стратаў". *"Як падчас Другой сусветнай вайны, краіна апынулася на краі бездані"*, — сцвярджаюць аўтары: найбольш яскравай характарыстыкай перадлукашэнкаўскага часу яны падавалі пустыя паліцы ў крамах. І толькі *"Аляксандру Лукашэнку ўдалася знайсці верны шлях"*: часы яго кіравання акрэсліваюцца як "Час надзеяў", "Час адзінства і міру".

На самай справе, сацыялагічныя апытанні сведчаць якраз пра адсутнасць надзеяў: да Лукашэнкі, пры ўсіх цяжкасцях, надзеі былі — а ў апошнія гады зніклі, застаюцца хіба што на тое, каб з'ехаць з Беларусі і пашукаць лепшай долі за мяжою. Суверэнітэт Беларусі пачаў ставіць пад пагрозу толькі Лукашэнка, прычым з самага пачатку свайго кіравання — апазіцыя ж ніколі не збіралася аб'ядноўвацца з іншай дзяржаваю. На момант, калі абіраўся Лукашэнка, Шушкевіча ва ўладзе ўжо не было, і Лукашэнка гэта ведае лепш як хто іншы, бо сам адыграў першую ролю ў зняцці Шушкевіча з пасады; а пакуль Шушкевіч быў, ніхто з рускіх не збіраўся з'язджаць з Беларусі з-за нейкага прыгнёту па этнічных прычынах. Пустыя паліцы — гэта прыкмета канца 80-х—пачатку 90-х; у сярэдзіне 94-га яны ўжо пустымі не былі. І гэтак далей.

Але ў дадзеным кантэксце няма мэты абвяргаць відавочную хлусню, якая ўжо дзясяты год — на кожным кроку. Чым-чым, а шчырасцю і сумленнасцю Лукашэнка не вылучаецца. Па яго прыкладзе, афіцыёзная прапаганда звычайна не абцяжарвае сябе пошукам не тое што мінімальнай праўдападобнасці, але і піярнага майстэрства; наадварот, яна заўсёды вызначалася грубасцю і тапорнасцю, на гебельсаўскі капыл. Тое ж самае рабілі і савецкія прапагандысты горшых гатункаў — у прыватнасці, пра іншадумцаў яны пісалі пад падобнымі загалоўкамі: "Плесня", "Накіп"...

Гаворка пра іншае. Апошнім часам вызначылася выразная лінія на, так бы мовіць, "дэманізацыю апазіцыі". Раней зрэдку адносіны да яе раптам рабіліся больш-менш лагоднымі (Лукашэнка нечакана прыгадваў, што апазіцыя — гэта таксама нашы грамадзяне, якія маюць права на ўласныя меркаванні, і да "разумных людзей" з апазіцыі нават варта прыслухоўвацца); непараўнальна часцей маляваўся звыклы "вобраз ворага" — але ж стаўленне было не дэманізаваным, а пагардліва-абразлівым: *"гэтыя багданкевічы, шушкевічы, лябедзькі, грыбы..."* Ізноў жа, я кажу не пра шляхетную далікатнасць выразаў, якія ўжываюцца "гэтымі лукашэнкамі", — тут якраз усё ясна: цяжкае дзяцінства, недахопы ў выхаванні — што паробіш. А вось чым выклікана з'яўленне "страшылак", якімі людзям паслядоўна даводзіцца думка: калі апазіцыя заменіць ля ўлады Лукашэнку — дык, як пісаў класік, "кепска будзе"? І чаму гэта ўзяліся даводзіць менавіта зараз?

Насамрэч, папракнуць беларускую апазіцыю можна хутчэй залішняй гатоўнасцю прыстасоўвацца да чужых правілаў і адсутнасцю волі да барацьбы — але не агрэсіўнасцю ды ваяўнічасцю. Тым больш, што, як кажуць, "чыя б карова мычала". Што ні вярзі пра тое, каго там збіраюцца "зарэзаць і павесіць" жахлівыя апазіцыянеры — але з палітыкаў знікалі пакуль што толькі праціўнікі ўлады, і ў стварэнні "эскадронаў смерці" абвінавачваюць зусім не апазіцыю. Наконт "пасадзіць" — дык палітычныя вязні ў суверэннай Беларусі з'явіліся толькі за Лукашэнкам.

Адным з першых палітвязняў у нашай краіне стаў намеснік старшыні ГА "БНФ "Адраджэнне" **Юрый Хадыка**, які на сённяшні дзень з'яўляецца ўжо закаранелым рэцыдывістам, паколькі за рэалізацыю свайго канстытуцыйнага права на свабоду мітынгаў і дэманстрацый яму выпадала адседжваць неаднойчы. За тое ж "злачынства" знаходзіўся за кратамі і **Анатоль Лябедзька,** старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, куды ўваходзілі Віктар Ганчар і Юрый Захаранка, якія ў наш "час адзінства і міру" зніклі без вестак. Большую частку "часу стратаў" парламентам краіны кіраваў **Станіслаў Шушкевіч,** які цяпер ачольвае Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. **Аляксандр Патупа,** старшыня Саюза прадпрымальнікаў, у гэты самы час меў кнігавыдавецкую фірму і газету, а ў "час надзей" гэта ўсё ляснулася.

Да гэтых людзей я і звярнуўся па каментарыі.

**— У выпадку, калі апазіцыя прыйдзе да ўлады, ці ёсць падставы чакаць нейкіх дзеянняў рэпрэсіўнага характару?**

**Юрый Хадыка:** "Адказнасць панясуць людзі, якія груба парушылі закон. Найперш гэта тычыцца тых, хто вінаваты ў знікненні апанентаў кіроўнага рэжыму. Пэўную адказнасць павінны несці Цэнтрвыбаркам і іншыя выбарчыя камісіі, якія фальсіфікуюць вынікі галасаванняў і, такім чынам, скажаюць волю народа".

**Анатоль Лябедзька**: "У апазіцыі вельмі мала людзей з патэнцыялам агрэсіі (ва ўсялякім выпадку, яны не складаюць нейкай крытычнай масы). Няма гаворкі не толькі пра абсалютную лухту накшталт "зарэзаць і павесіць" — "вертыкаль", ніжэйшы і сярэдні ўзровень чынавенства ў сваёй аснове застанецца працаваць у той ці іншай якасці, прынамсі на пераходны перыяд. Што тычыцца вышэйшага эшалона, палітычнай часткі, дык тут адбудзецца ратацыя — але нейкая рызыка пераследу ў межах закона ёсць толькі ў тых, хто ўчыняў крымінальныя злачынствы (перш за ўсё ў сілавых структурах): напрыклад, замешаны ў арганізацыі выкрадання людзей".

**Станіслаў Шушкевіч**: "Такіх памкненняў у апазіцыі я не бачу (я не бяру хуліганаў і маргіналаў, якіх ніхто не дапусціць да ўлады). Сённяшняя апазіцыя — гэта кааліцыя супраць цемрашальства, за цывілізаваныя падыходы. Сілы з самымі рознымі палітычнымі платформамі аб'ядноўваюцца на той мэце, каб грамадства было больш заможным, свабодным, задаволеным жыццём — а не для таго, каб камусьці адпомсціць. Помслівасць праяўляе якраз той чалавек, які лічыць сябе прэзідэнтам — вось ён і спрабуе мераць усіх на свой аршын".

**Аляксандр Патупа**: "Усё залежыць ад таго, наколькі рэзкім будзе пераход. Калі ён станецца крывавым, наступстваў будзе больш. Увогуле не думаю, што ў вялікім маштабе будзе нешта такое. Безумоўна, сам Лукашэнка ўпэўнены, што яго пакараюць вельмі моцна, і гэта яго дужа палохае".

**— Ці былі за час кіравання Лукашэнкі эканамічныя поспехі? Ці палепшыўся дабрабыт?**

**Юрый Хадыка**: "Быў пэўны ўздымчык у 98-м годзе — а пасля зноў усё пайшло на спад. Без рэформаў поспехі немагчымыя. А рэфармавання эканомікі не адбываецца, таму і інвестыцыяў няма".

**Антоль Лябедзька**: "Праблема пустых паліцаў сышла ў нябыт яшчэ да Лукашэнкі. Памятаю, як Кебіч, яшчэ калі быў прэм'ерам, з трыбуны Вярхоўнага Савета XII склікання выгукваў: "Вы хочаце, каб у нас былі пустыя паліцы, як у Польшчы і Літве?!" Усе з гэтага стану ўжо выйшлі — іншая справа, якім чынам. У нас ёсць магчымасць параўнаць цяперашняе становішча з суседзямі: з краінамі Балтыі, з Польшчай. У Беларусі далёка не такія багацце і разнастайнасць тавараў у крамах. А па цэнах мы прайграем і Літве, і Польшчы па ўсіх накірунках — пачынаючы з будаўнічых матэрыялаў і сканчаючы прадуктамі харчавання. Па заробках — тым больш. Няма магчымасці для паўнавартаснага харчавання, для выбару асартыменту адзення. Гэтага Лукашэнка даць не змог і ніколі не зможа".

**Станіслаў Шушкевіч**: "Сітуацыя змянілася ў горшы бок. Адбыўся эканамічны абвал. Прыватная частка, якая да 94-га года ўсталёўвалася і развівалася, цяпер знявечаная. Была сапраўдная мнагавектарнасць — а Лукашэнка зарыентаваўся амаль выключна на Расію. Каб мы ішлі тым шляхам, як прыбалты, — становішча было б нармальным. А так у беларусаў сярэдняя заработная плата значна меншая, чым у прыбалтаў, палякаў, чэхаў".

**Аляксандр Патупа**: "Менавіта з прыходам Лукашэнкі пачалося выміранне эканомікі. Я кажу не ў літаральным сэнсе: народ не галадае, нейкі мінімум забяспечваецца і забяспечвацца будзе. Але не будзе развіцця, эканоміка і надалей працягне развальвацца. Выжываць людзі будуць, але жыць вельмі дрэнна. У 94-м годзе эканоміка страціла рынкавую фазу. Лукашэнка пайшоў па шляху рэстаўрацыі сацыялістычнага гаспадарання — аднак у нас, з прычыны адсутнасці сыравіны, у антырынкавай эканоміцы значна болей праблем, чым у Савецкім Саюзе. Шкада, што мы згубілі ўсе шанцы — у прыватнасці, на стасунку з Захадам, на інвестыцыі — якія былі, бадай, найлепшымі ў параўнанні з іншымі постсавецкімі рэспублікамі".

**— Чым, на Вашу думку, тлумачыцца цяперашняя "дэманізацыя апазіцыі"?**

**Юрый Хадыка**: "У значнай ступені — пераменай пазіцыі Масквы. Крэмль пачынае намацваць кантакты з беларускай апазіцыяй; ёсць падставы сцвярджаць, што ён шукае замену Лукашэнку".

**Анатоль Лябедзька**: "Сацыялагічнае апытанне, якое правяла лабараторыя Вардамацкага, паказала, што на Лукашэнку спадзяюцца 12,8% грамадзян. І тут жа не спішаш на страх ці на недасведчанасць: Лукашэнку ведаюць усе. Разам з тым, прыкладна 40% не вераць ні ўладзе, ні апазіцыі. Запалохванне апазіцыяй — гэта работа на той сегмент, які нікуды не далучыўся.

Другая прынцыпова новая прычына, якой не было раней: узаемаадносіны з Расіяй пайшлі ўразнос, і Крэмль яўна настроены вырашаць праблему Лукашэнкі. Хаця наўрад ці рэзкія крокі будуць да сакавіка наступнага года, г.зн. да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі.

Нарэшце, узмацняецца незадаволенасць "вертыкалі". Сёння перасільвае страх. Але, калі здолеем стварыць эфект "снежнага кому", усё пасыплецца".

**Станіслаў Шушкевіч**: "Галоўная прыкмета цывілізаванай дзяржавы — перадача ўлады дэмакратычным шляхам. У цывілізаваным грамадстве ніякай боязі на гэты конт няма.

Тыя, што прыйшлі ў нас да ўлады, і іх памагатыя — абсалютна нецывілізаваныя людзі. Яны не дараслі да таго, каб зразумець, што ўлада павінна пераходзіць з рук у рукі, інакш не можа быць развіцця. Яны баяцца цывілізаваных падыходаў, і з-за гэтага страху робяць з апазіцыі дэмана. Гэта прыкмета нікчэмнасці цяперашняй улады".

**Аляксандр Патупа**: "Трэці тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў для Лукашэнкі. Гэтым зараз вызначаецца ўсё. Нейкія сур'ёзныя меры прымаюцца, толькі калі аўтары прапаноў дакажуць, што гэта карысна для трэцяга тэрміну.

З гэтай мэтаю вядзецца прэсінг па ўсіх пазіцыях. Натуральна, адна з галоўных: "Як гэта дрэнна, калі нешта зменіцца". У гэтым жа рэчышчы — масавая перарэгістрацыя грамадскіх арганізацыяй, актыўнае адзяржаўленне прадпрымальніцтва і шмат іншых з'яў. У тым ліку і ціск на палітычную апазіцыю. Рэальная пагроза з яе боку на самай справе перабольшваецца — але ж на ўсялякі выпадак, каб нідзе нічога гэтакага не ўзнікла. Да таго ж, пагроза можа быць пераменнай: сёння нічога асаблівага — а праз некаторы час раптам выйдзе нешта істотнае.

У хуткім часе, увосень, гэтыя працэсы могуць дужа ўзмацніцца. А апазіцыя ва ўсёй галіне трэцяга тэрміну не мае кансалідаванага плана супрацьву".

ОФИЦИАЛЬНО

## Все вопросы, связанные с начислением пенсии, отрегулированы законом

*Казаченку В.Ф.,*
*ул.Кольцова, 8*
*г.Бобруйск,*
*213812, Могилевская обл.*

Уважаемый Владимир Федорович!

По поручению министра труда и социальной защиты Республики Беларусь А.П.Моровой Ваше обращение, поступившее из редакции газеты "Народная воля", рассмотрено в пенсионном управлении. Сообщаем следующее.

Декрет Президента Республики Беларусь от 22 марта 1999 г. №12 "О дополнительных мерах по совершенствованию пенсионного обеспечения граждан" установил, что при исчислении пенсий в соответствии с законодательством о пенсионном обеспечении заработок в пределах от 130 до 400 процентов средней заработной платы рабочих и служащих в республике, применяемой для корректировки фактического заработка пенсионера, учитывается в размере 10 процентов, а лицам, занятым на подземных и открытых горных работах (часть первая статьи 13 Закона Республики Беларусь "О пенсионном обеспечении"), — в размере 20 процентов. При этом часть пенсии, исчисленная с учетом заработка свыше 130 процентов средней заработной платы рабочих и служащих в республике, применяемой для корректировки фактического заработка пенсионера, в период работы либо занятия предпринимательской деятельностью (за исключением работы непосредственно в производстве сельскохозяйственной продукции в колхозах, совхозах и на других предприятиях сельского хозяйства) не выплачивается.

В порядке информации сообщаем, что для права на пенсию по возрасту в соответствии с частью первой статьи 13 Закона необходимо иметь не менее 20 (25) лет стажа работы на подземных работах (по списку профессий). Поскольку Ваш стаж в подземных условиях составляет 11 лет 1 месяц 26 дней, указанный Декрет Президента вопросы Вашего пенсионного обеспечения не затронул.

Декретом Президента Республики Беларусь от 17 мая 2001 г. №13 "О мерах по совершенствованию пенсионного обеспечения лиц, занятых на подземных и открытых горных работах", установлено, что при исчислении пенсий согласно Закону Республики Беларусь "О пенсионном обеспечении" лицам, занятым на подземных работах и работах на поверхности, связанных с подземными работами (абзацы первый—третий пункта "а" части первой статьи 12, часть первая статьи 15 (список №1) Закона), заработок в пределах от 130 до 400 процентов средней заработной платы рабочих и служащих в республике, применяемой для корректировки фактического заработка пенсионера, учитывается в размере 20 процентов, а лицам, длительное время занятым на подземных и открытых горных работах (часть первая статьи 13 Закона), этот заработок учитывается в размере 30 процентов. При этом в отношении выплаты части пенсии, исчисленной с учетом этого заработка, работающим пенсионерам действует прежний порядок, установленный Декретом Президента Республики Беларусь от 22 марта 1999 г. №12.

В настоящее время нормы, изложенные в указанных Декретах Президента Республики Беларусь, трансформированы в статью 56 Закона "О пенсионном обеспечении". В порядке справки сообщаем, что другим пенсионерам, заработок в пределах от 130 до 400 процентов средней заработной платы рабочих и служащих в республике, применяемой для корректировки фактического заработка пенсионера, учитывается в размере 10 процентов.

Как видно из изложенного, действующее законодательство не предусматривает каких-либо надбавок и повышений к пенсиям лицам, занятым на подземных работах, а устанавливает особый порядок исчисления заработной платы для назначения им пенсии (об этом Вам сообщалось ранее в письмах министерства от 21 января 2002 г. №603/34-Ка, от 10 июля 2003 г. №630/639-Ка).

Что касается разницы в размерах пенсий, выплаченных Вам и Вашему свояку Аношке Я.В., то она не существенная, в августе составляет 800 руб. и обусловлена тем, что индивидуальный коэффициент заработка у Аношки Я.В. несколько выше, чем у Вас, соответственно и размер его пенсии выше, о чем Вам уже разъяснялось в письме министерства от 11 июня 2003 г. №603-498-Ка.

**Л.И.МАРЧЕНКО,**
**начальник пенсионного управления Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь.**

НА СВАЕ ВОЧЫ

# Made in Belarus: прыбіральні на калёсах

Хачу падзяліцца з вамі тым, што закранула, зачапіла, абразіла — як заўгодна назавіце, а ўсё роўна непрыемна.

Паехалі мы з жонкай летам у Санкт-Пецярбург. Ходзім. Глядзім. Дзівімся нават — прыгожы горад усё ж. Раптам, глядзь — у Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе народу процьма заўсёды, наш МАЗаўскі аўтобус стаіць. Навюткі, бляшчыць на сонцы. І што характэрна — на тэрыторыю крэпасці нікога на колах наогул не пускаюць, хіба што вельмі крутым іншаземцам зрэдку дазваляюць заехаць. А тут — родны, беларускі, сіненькі — стаіць сабе. Не англічане ж на ім прыехалі. Падцягнуліся мы з жонкай бліжэй — паглядзець, што гэта за землякі "прасунутыя" на аўтобусе ў крэпасць прыпёрліся...

Землякоў мы там не сустрэлі. А можа, і быў хто з Беларусі, ды не пазналі, бо пры такой справе людзі больш маўчаць, — у аўтобусе была... прыбіральня. Так, так менавіта *туалет*, аб чым і паведамлялася вялікімі літарамі на лабавым шкле.

Ведаеце, пасля здзіўлення і нявер'я ўласным вачам пачуццё было — нібы мокрай і не вельмі свежай анучай па твары ляснулі. Узгадаў сюжэт па нашым тэлебачанні, дзе, захлынаючыся ад захаплення, расказвалі, што Піцер да юбілею купіў у МАЗа аўтобусы... Купіў. А потым паставіў іх, пад клазеты прыстасаваныя, у самых людных месцах. Атрымайце, браткі-беларусы, яшчэ адзін падарунак ад "старэйшага брата". У Піцеры сёлета турыстаў — з усяго свету. От хай яны і пабачаць, для якіх патрэб мы выкарыстоўваем беларускія аўтобусы.

Як там што ў тым аўтобусе прыстасавана — шчыра прызнаюся: не ведаю, бо не хадзіў. Па-першае, уваход туды каштаваў дзесяць рублёў (цікава, МАЗу які-небудзь працэнт з таго вялізнага, мяркуючы па колькасці людзей, прыбытку ідзе?). Па-другое... Ну, а вы ці сталі б на сваё, роднае, у чужым горадзе чужой краіны гадзіць?..

Гэткі ж аўтобус-прыбіральня (таксама вытворчасці МАЗ) "пашчасціла" ўбачыць у яшчэ адным месцы, не менш папулярным, чым Петрапаўлаўка, — ля Эрмітажа. Піцерцы нібы спецыяльна клапаціліся аб удалай рэкламнай кампаніі нашага аўтазавода.

Адно пытанне не дае спакою: ці ведаюць аб вышэйнапісаным на самім аўтазаводзе? А калі ведаюць — чаму не турбуюцца аб іміджы сваёй прадукцыі за межамі краіны?

Дасылаю фотаздымкі, каб не сумняваліся, што пішу праўду. Дарэчы, фатаграфаваў прыбіральні на калёсах не я адзін. Можа, то былі гэткія ж абражаныя беларусы. А можа, іншаземцы, якія потым у сябе на радзіме будуць паказваць, як у Санкт-Пецярбургу выкарыстоўваюць беларускія аўтобусы.

**Лявон РЭДЗЬКА.**
*Мінск.*

***Што і казаць, эмацыянальны ліст даслаў у рэдакцыю Лявон Рэдзька. І гэта добра, калі чалавек кіруецца патрыятычнымі пачуццямі. Але ж рэаліі жыцця патрабуюць пагледзець на ўзнятую праблему і з іншага боку. А таму карэспандэнт "Народнай волі" звярнуўся за каментарыем да камерцыйнага дырэктара філіяла РУП "МАЗ" — "АМАЗ"* Сяргея ДЗЕМАЧКІНА, *які і растлумачыў, як МАЗаўскія аўтобусы пераўтварыліся ў Піцеры ў прыбіральні:***

— Нашы аўтобусы ў Санкт-Пецярбургу пад прыбіральні ніхто не прыстасоўваў — гэта быў спецыяльны заказ, пад які мы спецыяльна распрацавалі і зрабілі 14 рухомых аўтобусаў-прыбіральняў. Тады ж было святкаванне 300-годдзя горада. Піва, зразумела, ракой лілося, пасля ўжывання яго ў людзей з'яўляецца нармальнае жаданне "вызваліцца". А ў нашым аўтобусе 8 кабінак, ён падключаецца да воднай і каналізацыйнай сістэмы, і, самае галоўнае, гэтыя прыбіральні — мабільныя, іх можна паставіць у любым месцы, дзе праводзяцца масавыя мерапрыемствы. Пры гэтым спачатку мы адмовілі піцерцам, бо трэба было зрабіць вельмі шмат складанай работы па распрацоўцы навінкі, аднак нас усё ж такі перакапалі, таму што мінскі аўтобус — адзіны, у які можа заехаць інвалід на калясцы (для гэтай катэгорыі спецыяльна прыстасаваныя кабінкі). Больш заказаў на такія аўтобусы пакуль няма, хаця былі нейкія неканкрэтныя просьбы з Масквы.

**— І колькі аўтобус-прыбіральня каштуе?**

— Недзе каля 100 тысяч долараў.

*Як бачым, усё намнога празаічней. Мінскія аўтабудаўнікі адгукнуліся на просьбу піцерцаў — у выйгрышы і адны, і другія. А што тычыцца іміджу, то, як нам здаецца, МАЗ яго не згубіў, а наадварот — памножыў. Ва ўсім свеце для вытворцаў галоўнае, каб былі заказы, якія дазвалялі б зарабляць добрыя грошы, а значыць, і добра жыць.*

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Паколькі ў Санкт-Пецярбургу за наведванне такога аўтобуса ўстанавілі таксу 10 расійскіх рублёў (прыкладна 35 цэнтаў), то мы падлічылі, што акупіцца беларуская рухомая прыбіральня для расіян праз 300 тысяч "ходак" у яе піцерцаў і гасцей горада. Калі ж устанавіць такі аўтобус у Мінску, то акупіць цуда тэхнікі і наогул будзе складана — пры сярэднім кошце платных гарадскіх прыбіральняў ў 200 рублёў "на нуль" можна выйсці толькі пасля таго, як кабінку наведае мільён пяцьдзесят тысяч чалавек. "Юбілейнаму наведвальніку" можна было б і прыз даць — рулон паперы якога-небудзь расійскага паперна-цэлюлознага камбіната. У рамках, так бы мовіць, супрацоўніцтва.*

*Аляксандр ПАЎЛОЎСКІ:*

## «Беларускія пагранічнікі гатовы да працы...»

*Беларускія пагранічнікі гатовы да працы ва ўмовах візавага рэжыму з Польшчай, які ўводзіцца з 1 кастрычніка бягучага года.*

Пра гэта ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН заявіў старшыня Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў краіны генерал-лейтэнант **Аляксандр ПАЎЛОЎСКІ.** Паводле яго слоў, на першым этапе ў грамадзян узнікнуць пэўныя цяжкасці, *"але пагранічнікі гатовы і будуць старацца зрабіць усё, што можна, для людзей"*.

На думку А.Паўлоўскага, *"пагранічнікі выконваюць свае абавязкі нядрэнна, калі паслы асноўных заходніх краін — Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі — даюць ім ацэнку"*, згодна з якой *"пагранічнікі Беларусі адпавядаюць стандартам Еўропы"*.

Да ўвядзення візавага рэжыму рыхтуецца і польскі бок: перанос тэрміну з 1 ліпеня на 1 кастрычніка 2003 года ён выкарыстоўвае для таго, каб стварыць консульскія пункты і тым самым мінімізаваць нязручнасці для звычайных грамадзян. "Мы ставімся з пэўным разуменнем да дзеянняў польскіх калег — для іх гэта ўступленне ў Еўрасаюз, — зазначыў старшыня Дзяржкамітэта пагранвойскаў Беларусі. — З іншага боку, мы лічым, што цалкам можна было абысціся і без віз. Нават усе еўрапейскія краіны зазначаюць, што грамадзяне Беларусі і, наогул, усе, хто прыязджаюць з Беларусі, — гэта высокі ўзровень надзейнасці".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ПОДРОБНОСТИ

## В Минске едва не упал самолет

***Узнать, что же на самом деле произошло и где находятся после аварии пассажиры авиалайнера, оказалос ь непросто.***

В субботу в полдень информационные агентства сообщили о том, что при посадке в Национальном аэропорту "Минск" едва не разбился самолет Ту-154 иранской авиакомпании "Киш Эйр". Самолет совершал рейс из Тегерана в Копенгаген с промежуточной посадкой в белорусской столице.

В субботу утром в Минске был сильный туман. Летчики, видимо, промахнулись, и самолет задел корпусом ветки деревьев. Когда экипажу все-таки удалось посадить лайнер, из его фюзеляжа торчали сбитые части деревьев. У самолета были повреждения в крыльях, шасси и корпусе. Лететь в Копенгаген он уже не смог. Авиалайнеру срочно требовался ремонт.

На борту самолета находились более 40 человек.

По предварительной версии, причиной аварии стала ошибка экипажа. Сейчас в минском аэропорту работает специальная комиссия. И, как заметил руководитель пресс-службы Госкомавиации Вадим Бицан, говорить о том, что же стало причиной аварии, можно будет только тогда, когда станут известны результаты расследования.

Что же касается судьбы пассажиров лайнера, то в понедельник утром (!) в пресс-службе Госкомавиации сказали, что о них ничего не знают. Отказался дать какой-либо комментарий и помощник генерального директора Национального аэропорта Валерий Ефименко. Он держался так, словно речь шла о государственной тайне. Единственное, в чем "раскололся" Валерий Иванович, — "никто из пассажиров не пострадал". И все же мне удалось узнать, что происходило в минском аэропорту после аварии. В посольстве Исламской Республики Иран в Минске это происшествие не считают тайной.

"Все случилось настолько стремительно, — рассказала сотрудница посольства, — что пассажиры даже не поняли, что произошло. К счастью, все обошлось без серьезного физического и морального ущерба. В тот же день из Ирана вызвали другой самолет, на котором в субботу вечером все пассажиры улетели в Копенгаген".

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Лестница из московской гостиницы, погубившая Купалу, уедет в Беларусь

Директор минского музея Янки Купалы Сергей Вечер заявил, что мэрия Москвы наконец-то согласилась передать Минску некоторые элементы интерьера сносимой гостиницы "Москва".

Недавно белорусская сторона направила официальное письмо на имя мэра Москвы Юрия Лужкова с просьбой передать минскому музею те плиты из холла гостиницы, о которые разбился поэт, а также фрагменты лестничных перил, у которых он стоял в последние минуты жизни, и дверь 414-го номера, где накануне трагедии остановился Купала.

*"Фрагменты интерьера гостиницы "Москва" могут стать одной из центральных частей экспозиции музея и иметь концептуальное значение для трактовки версии смерти поэта"*, — заявил директор музея. Он также сообщил, что в Москву уже высланы эксперты, которые должны оценить сохранность тех элементов интерьера, о которые разбился Купала.

*www.tut.by*

